Год V 1927. ТРАВЕНЬ. III-ая кніжка




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

## Зьмест.



ЦАНА асобнага нумару з дастаўкай да хаты 30 гр.,

# Што такое спэцыяльная гаспадарка.

Хто з Вас, Браты-Беларусы, быў у латышоў каля Рыгі, той, пэўна, бачыў на чыстых паскох, на якіх у нас ня можа расьці ніякая наша збажына,—буйныя ягаднікі суніц (пазямак, землянікі), за ягады якіх латыскі селянін выручае каля 1.000 р. у год. І гэта з пяшчанага бязплоднага гародчыка вялічынёй ў паўдзесяціну.

Што прывяло латыша да таго, што ён пакінуў той спосаб вядзеньня сельскае - гаспадаркі, які практыкуецца яшчэ ў нас на Беларусі і перайшоў да вузкай спэцыяльнасьці? Час, жыцьцё, а перадусім малазямельле.

Даўнейшы гаспадар стараўся, каб са сваей гаспадаркі мець даволі жыта на хлеб, ячменю на крупы, аўса на бліны, капусты, буракоў, бульбы, каб мець малака, адзежу і ўсё, што трэба для яго жыцьця.

Цяпер такі тып гаспадаркі ўдзержацца ня можа, бо калі-б гаспадар пачаў старацца сам здаволіць усе патрэбы, не прыкупляючы нічога збоку, а таксама нічога не прадаючы, ён мусіў-бы хутка кінуць сваю гаспадарку і ўцякаць кудысьці, хаця-б ад адных сэквэстратараў.

Сучасны тып гаспадаркі іншы ўжо тым, што на зямлю павінны мы глядзець толькі, як на варштат, або фабрыку для вырабу тавару, каторы можна было-б як найдаражэй прадаць. Цяпер гаспадар не павінен зьвяртаць увагі на тое, каб было ўсё сваё, а на тое, каб на ўсё было, на ўсё хапало.

І вось у Амэрыцы і Зах. Эўропе мы ўжо бачым такія тыпы гаспадарак:

**Гаспадаркі спэцыяльныя**. Спэцыяльная гаспадарка прыпасована да таго, каб вытварыць, як магчыма болей, аднароднага тавару найлепшай якасьці, а тады за грошы ад прадажы тавару, здаволіць усе свае патрэбы. Там спэцыялізацыя гаспадаркі пашла далёка, што ёсьць фэрмы (хутары), каторыя гадуюць, напрыклад, адных толькі курэй, іншыя — ўсю сваю зямлю засадзілі садам і то адным гатункам дрэў. Гэтакая спэцыялізацыя мае той добры бок, што гаспадар, вытвараючы аднзін які-небудзь прадукт—тавар, можа добра ведаць, як гадаваць, або вытвараць як найболей і найлепшага, а тым самым і найдаражэйшага тавару; тады, як наш гаспадар, вядучы рознабаковую гаспадарку, каб усё ведаць, павінен быў-бы знаць амаль ня ўсе, якія ёсьць на сьвеце навукі. А гаспадар пры спэцыяльнай гаспарцы можа мець з яе ў дзесяць, а то і ў дваццаць раз большы даход.

Гэты тып гаспадаркі пачынае шырыцца і ў нас на Беларусі па дварох і засьценках, дзе гаспадаруюць балей

руплівыя і разумныя гаспадары, але бяда толькі ў тым, што наша вёска ўхіляецца ад гэтага, а між тым спэцыяльная гаспадарка якраз найболей дае карысьці пры дробных надзелах, дзе даглядаюць за ўсім свае рабочыя рукі.

Ведама, што ўсякая спэцыяльнасьць вымагае спэцыяльнай навуковай падгатоўкі і нельга раіць усім і зараз-жа перахадзіць да спэцыяльнай гаспадаркі, бо апошняя вымагае ад гаспадара падгатоўкі і знаньня. Але трэба думаць, што жыцьцё і час, які „не за гарамі“ прымусіць пераймаць да гэтага і нас беларусаў. Спачатку прымуцца за спэцыяльную гаспадарку людзі сільнейшыя навукай, энэргіей, спрытам. Гэты руплівы элемэнт і сеньня патрохі пачынае мяркавацца з умовамі, пры якіх знаходзіцца яго гаспадарка, які гавар цяпер „ухаду“ і паступова парахозіць да спэцыялізацыі. Да гэтага прымушае насъ перахадзіць яшчэ і тыя абставіны, што старая гаспадарка, як яе яшчэ завуць **натуральнай**, вымагае большага абшару зямлі. Новая-ж гаспадарка, або **спэцыяльная** магчыма і на дробным надзелу, абы толькі гаспадар меў поўную сьвядомасьць у сваей спэцыяльнасьці і быў пакупецку руплівым. Гаспадар новай сучаснай гаспадаркі мусіць, як кажуць, стаяць аднэй нагой на сваей ніве, а другой — на рынку ў горадзе ці мястэчку.

*У. Павальковіч.*

---

# Мінэральныя угнаеньні.

Каб мець з зямлі ўраджай, акупаючы цяжкую працу гаспадара, ён павінен даць зямлі патрэбную для ўзросту раслін колькасць спажыўных матэрыялоў, ад прысутнасці якіх залежыць рост раслін.

У кожным грунце бывае ў той ці іншай колькасці гэтыя спажыўныя складнікі, але на нашых землях яны амаль не заўсёгды знаходзяцца ў такім стане, з якога расліны карыстацца ня могуць. Праўда, правільная апрацоўка зямлі, правільнае чарадаваньне раслін у полі, сілы прыроды—памагаюць перавадзіць пажыўную матэрыю зямлі з аднаго стану ў другі, але пераход гэты робіцца вельмі марудна, дзеля чаго гаспадар мусіц папаўняць недахоп спажывы для раслін праз унясеньне ўгнаеньня.

Як мы бачылі ў папярэднім нумары „Сахі“ (глядзі „Як павялічыць уражайнасць зямлі“),—на нашыхц грунтах найчасцей не хапае азоту, фосфару і паташу. Усе гэтыя тры складнікі гаспадар разам уносіць у зямлю, угнаіваючы яе хлеўным гноем. Гэты гной, апроч таго, што ўзбагачае зямлю ўсімі патрэбнымі для раслін матэрыямі, аказвае яшчэ

і ўкоснае дзеяньне, заражая зямлю карыснымі бактэрыямі, абагачае яе гумасом, ад чаго палепшаецца структура (будова) ральлі і г. д. Усё гэта кажа, што гной ад скаціны трэба лічыць найлепшым. Але, нажаль, у нас, пры маларазвітай жывёлагадоўле, гэтага гною кожны раз не хапае. Каб добра ўгнаіць зямлю, трэба, як гэта паказалі практыка і навуковыя дасьледы, палажыць на горшых, бяднейшых грунтах каля 3600 пудоў на дзесяціну, ці $1^1/_2$ пуд. на кв. саж., а на лепшых — 2400 пуд. на дзес., ці 1 пуд на кв. саж. Лічучы па 20 пуд. гною на воз, у першым выпадку нам будзе патрэбна яго на дзесяціну 180 вазоў, а ў другім 120. Вядома, што наш сялянін ня ўносіц гэтаго гною і паловы таго, што патрабуе наша зямля. Вось галоўная прычына нашых нізкіх уражаяў, вось чаму цяжкая праца нашаго земляроба рэдка дзе акупаецца.

Цяпер робіцца зразумелым, што, калі гаспадар жадае павялічыць свой ураджай, ён мусіць папоўніць недахоп гною ад скаціны другім угнаеньнем, якім і будзе мінэральныя угнаеньні. Але, каб часам ня кідаць грошы за вакно, мы мусім ведаць натуру гэтыхц угнаеньняў, на якія яны ляпей надаюцца землі і пад якія збожжы. Толькі тады наш земляроб можа ўжываць іх з карысьцяй для гаспадаркі.

На ўсіх землях найвыразней выступаець брак азоту.

---

## Азотныя гнаі.

**Чылійская салетра**. Паклады Чылійскай салетры знаходзяцца на заходнім узбярэжжы Паўдзённай Амэрыкі (Чылі). Гэта ёсць злучэньне азотнага квасу з содам ($NaNO_3$), у якой чыстаго азоту бывае 15—16%. Чылійская салетра — белая соль, якая дрэнна перахоўваецца, бо прыцягваючы з паветра вогкасць, хутка збіваецца ў камякі. Салетра шмат хутчэў уплывае на расліны, чым іншыя азотныя гнаі. Зямля салетру не затрымлівае, ад чаго яна хутка выпаласківаецца ў ніжэйшыя слаі, адкуль карэньчыкі расління могуць яе спажыць. Дзеля гэтага салетру сеюць па руні.

Калі жадаем ратаваць слабыя засевы, дык салетра тут робіць дзівы. Пад азіміну салетру сеюць 2 разы: у восень па руні і вясной, як толькі азіміна пачынае прабуджацца к жыцьцю. З ярынаў найлепш спажываюць салетру авёс. Пад бульбу салетру трэба ўнасіць загадзьдзя, бо ад яе бульба зрастаецца моцна ў каліўе і апазніваецца з завязываньнем бульбінаў. Болей усяго адклікаюцца на ўнясеньне салетры буракі, пад якія яе ўносяц 2—3 разы; першы раз, як толькі ўзойдуць расліны, а апошні ў чэрвені перад апошняй апалаўкай буракоў.

Салетра, пападаючы на воўгкія часткіраслін, нішчыць іх зусім, дзеля чаго яе сеюць у час сухой пагоды і на сухія раслінкі.

Салетра—гэта атрута, а таму трэба ня пускаць скаціну на сьвежа-салетраванае поле.

Немцы перад вайной ужывалі салетры на дзесяціну да 25 пуд. і знаходзілі, што ўжываньне яе аплачвалася і ў такой колькасці. У нас на Беларусі, дзякуючы другім эканамічным умовам жыцьця, спадзявацца, што 25 пуд. салетры на дзесяціну аплаціцца—рызыкоўна. Ужываюць каля 10 пуд. на дзесяціну.

**Нарвэская салетра** — гэта злучэньне азотнага квасу з вапнай. Мае каля 13% азоту і розніцца ад чылійскай салетры тым, што ў апошняй азот зьвязаны з содай, а ў нарвэскай з вапнай, дзеля чага ўжываньне яе карысна адбіваецца на будове ральлі, бо вапна не выклікае заскарупленьня зямлі. Азот для вырабу нарвэскай салітры бярэцца з паветра пры дапамозе сільных электрычных выладоўваньнях. Ужываецца яна таксама, як і чылійская салетра.

**Амонавы сярчан.** — гэта злучэнньне серчанага квасу з аманьякам [$(NH_4)_2$ $SO_0$]. Мае ў сябе каля 20% азоту. Серчан -- прадукт фабрыкацыі сьвяцільнага газу і коксу. Уплывае менш энэргічна на рост расьліны, чым салетра, затое даўжэйшы час і вада не вымывае яго ў ніжэйшыя слаі.

Амонавы сярчан ужываедца на ўсякіх землях, апрача кіслых. Авёс і бульба выкарыстоўваюць амонавы сярчан таксама добра, як і салетру. Буракі ляпей удаюцца па салетры.

Амонавы сярчан не выклікае, як салетра, працэнтнага зьвялічэньня бялкоў у пладох, дселя чаго ён ляпей надасцца пад броварны ячмэнь, бульбу. Сярчан высяваецца пад азіміну з восені. Яго нельга зьмешваць з матэрыяламі, маючымі ў сябе вапну, бо апошня выдзеляе аманьяк—самую каштоўную частку сярчана ў паветра.

**Азатняк**—ёсьць злучэньне вапны з ціянам (Ca (C №)₂) мае 18-20 проц. азоту. Азатняк ёсьць атрута для расьлін і толькі тады, калі ён у зямле перайдзе ў салетру, становіцца годным для расьлін. Дзеля гэтага азатняк абавязкава трэба ўнасіць загадзя—за 2--3 тыдні перад пасевам збожа і добра зьмяшаць з зямлёй.

Азатняк нішчыць вопратку і шкодна ўплывае на слюзавыя абалонкі носа і вачэй, а таму трэба з ім абходзіцца вельмі асьцярожна.

# Попел, як угнаеньне.

У тых старонках, дзе вытворчасьць сельскае гаспадаркі паднята ў ва ўсіх яе галінах, попел лічаць за вельмі каштоўны гной. У Голяндыі і Бэльгіі, дзе, як вядома, культура лёну стаіць вельмі высока, угнойваюць зямлю пад лён дравяным попелам, або тарфяным. Попел, пасеяны па ўсходах лёну, зьяўляецца добрым сяродкам проціў земляной блыхі і інш. казюлек. Па думцы тамтэйшых гаспадароў, ніякі іншы гной не надаецца замяніць попел на ўгнаеньне зямлі пад лён, бо толькі праз угнаеньне попелам атрымоўваецца тонкае элясьцічнае валакно, якое вельмі цэніцца на фабрыках.

Попел павінен суха перахоўвацца, бо ў праціўным выпадку ён траціць найкаштаўнейшыя для расьлін часткі і дае зусім нязначныя вынікі. Калі няма месца, дзе можна было-б перахоўваць попел, то сабраную кучу яго трэба пакрыць зямлёй, ці дзярном. Найляпей для попелу вымураваць у закрытым месцы схоўнік, куды і ссыпаць яго. З усіх гатункаў попелу лічыцца найлепшым — попел з дроў, які мае найбольш спажыўных частак для расьлін. Попел з торфу мае меншую вартасьць за дравяны, бо зьмяшчае ў сабе менш спажыўных частак. Апрача гэтага, якасьць попелу з торфу залежыць ад якасьці самога торфу, з якога ён паходзіць. Чым торф мае больш расьлінных частак, тым болей ён па вартасьці прыбліжаецца да попелу з дроў. Калі-ж торф мае ў сябе закісь жалеза ці іншыя шкодныя для расьлін часткі, то ўжываньне попелу з такога торфу ў значнай колькасьці, бывае нават і шкодным.

Попел з каменнага вугальля куды менш карысны, чым попел з дроў ці торфу. У мясцох, дзе паляць вугальлем, попел гэты ўжываюць на кампост.

Попел, добра перахаваны і ня вымыты дажджом, дае добрыя вынікі на ўсіх землях, апроч лёгкіх і бедных пяскоў. Усе бабавыя расьліны, як лубін, канюшына, гарох, люцэрна і іншыя, як таксама лугі, добра адклікаюцца на ўгнаеньне попелам. Лугі, угноенныя попелам хутка замяняюць мох і другія шкодныя травы на дзяцельнік, якога перад гэтым і сьледу ня было. Попел расьсяваюць па палі вясной, па лугох — увосень. Як у першым выпадку, так і ў другім, угноеныя попелам месцы трэба забаранаваць.

*Dejcz.*

# Рожа ў сьвіней.

Часта гэта хвароба, раз яна ўкаранілася дзе-небудзь, прымушае цэлую вёску і ваколіцу зрачыся на некалькі гадоў гадаваць сьвіней. Страты, якія прыносіць рожа сьвіней нашай гаротнай Бацькоўшчане, непаддаюцца падрахунку. Здаецца, што тутака ходзіць аб некалькі дзесяткаў мільёнаў злотаў, якія наша вёска што-год выкідае з свайго бюджэту. Сяляне, бачачы гэту навальніцу, абмяжоўваюцца толькі тым, што прапаўшую ад рожы сьвіньню выцягваюць з надворка, ці кідаюць яе ў раку, ад чаго гэтая зло нашае вёскі хутка пераносіцца з аднаго месца на другое. Робіцца ўсё гэта дзеля таго, што мы, сяляне, не ўяўляем ясна, што за прырода гэтай хваробы і як з ей змагацца.

Рожа сьвіней — хвароба пошастная (заразьлівая). Хварэюць на яе парасяты і сьвіньні ў болей маладым веку. Палавіна захварэўшых сьвіней гінець. Болей усяго хварэюць сьвіньні, якія пасуцца каля рэчак. Хвароба гэта перадаецца праз маленькія кіёчкі (іх можна прыкмеціць толькі праз вельмі павялічваючае шкло — мікраскоп), бактэрыі рожы; іх шмат у крыві хворай сьвіньні, ў кішках, ў лёгкіх. Дыханьне і кал хворай жывёліны перадаюць хваробу здаровым нават цераз паветра.

Хвароба пачынаецца з таго, што сьвіньня перастае есьці, трасецца, скура пад брухам чырванее, часта, асабліва пад канец хваробы, цячэ сьліна, бываюць ваніты (варацакі), дыханьне шыбкае. Пры гэтым часта бывае запаленьне мозгаў, сьвіньня круціцца, робіцца соннай.

Лячэньне хворых сьвіней пачынаецца з таго, што захварэўшую жывёліну аддзяляюць ад здаровых, гной з хлявоў, дзе стаялі і хадзілі хворыя сьвіньні, вывозяць куды-небудзь далей, зямлю ў хляве перакапваюць на 4 вяршкі, пасыпаюць сьвежай вапнай, сьцены і ўсё, што можна, бяляць вапнай, карыты мыюць вадой, у каторай распушчаана на 1 вядро вады 1 залатнік сулемы. (С у л е м а  в е л ь м і  м о ц н а я  т р у ц і з н а,  з  я к о й  т р э б а  а б х а д з і ц ц а  а с ь ц я р о ж н а).

Дохлых сьвіней трэба глыбака закапваць у зямлю, а ляпей трупы паліць. Выцягваць іх і кідаць незакапанымі, або няспаленымі, шкодна для цэлай ваколіцы, якой і трэба самой за гэтым сачыць, бо інакш гэта зараза хутка пераносіцца і на іх сьвіней.

Лекі пры гэтай хваробе мала памагаюць. Зпачатку хваробы даюць на ваніты (1 залатнік ванітнага каменя на бутэльку вады), потым камфару (1 залатнік), каламель (1 залатнік). Апрач таго можна даваць карболкі, (10—15 капель

на бутэльку 3—4 разы ў дзень. У апошнія часы з пасьпехам ужываюць прышчэпку рожы здаровым сьвіньням, ад чаго апошнія не баяцца хваробы.

Хворых сьвіней трэба дзяржаць на чыстым паветры, паіць іх сыраваткай ці вадой з воцтам.

*У. Павалковіч.*

---

## Лячэньне наравістага каня.

Нораў у коняў лічыцца вэтырынарамі за хваробу, ня здатную для лячэньня.

Але бываюць выпадкі, праўда не заўсёгды, калі гаспадар, патрапляючы сваей жывёле, прымушае яе працаваць. Аднак, трэба сказаць, што праца такой жывёлай вымагае ад гаспадара часам не чалавечага цярпеньня і што ніякое біцьце каня хваробе не памагае, бо ад гэтага конь толькі горш наравіцца і гатоў паламаць і парваць усю збрую.

Наравяцца коні найчасьцей ад таго, што з імі дрэнна абходзяцца: б'юць, наваліваюць вельмі цяжкі воз, а раз конь ня зможа вязьці яго, то на другі раз ён і сам прывучаецца не цягнуць і лягчэйшы воз.

Калі конь занаравіцца, бяруць камяк зямлі і сунуць яму ў рот. Конь стараецца выкінуць зямлю з рота і пры гэтым забываецца пра свае норавы. Часам гэты спосаб не памагае, то трэба пробаваць другі! З заду да калёс прывязваюць другога каня і паганяюць яго, каб ён цягнуў воз назад. Наравістаму каню не падабаецца, што яго цягнуць назад, пачынае сам цягнуць, як трэба. Яшчэ адзін спосаб, якім я адвучваў каня ад нораву: як толькі конь занаравіцца то бяру яго ў лейцы і дзержачы крэпка за іх, крычучы „тпру", Конь думае, што гаспадару трэба, каб ён падаўся назад, робіць праціўнае, што мне і патрабавалася.

*К. Б.*

---

## Як уберагчы гусенят ад здыхаты.

Гусеняты найчасьцей дохнуць у чэрвеню і ліпню м-цах, калі на дворэ стаіць гарачая пагода. Чым гарачэй лета, тым больш здыхае гусянят. Як толькі захварэе гусянё, то яно апускае крыльлі, ходзіць, як п'янае, пішчыць; лапа і дзюба бялеюць; гусянё астаецца ад гурту і нарэшце здыхае.

Ведама, што ў нас на вёсцы гусей заганяюць у маленькі хлявок, дзе яны ноччу выпаражніваюцца ад калу, у якім ад хворых гусей разьвіваюцца мікробы і заражаюць увесь хлеў.

Вось, каб уберагчы здаровых гусей ад хваробы, абавязкава трэба кожны дзень гусячы гной пасыпаць паленай вапнай, або змываць карболкай (карболавым квасам), а лепш за ўсё гусей на нач пакідаць на дварэ і кожны дзень гной чыста зграбаць, а надворак, дзе сядзелі хворыя гусі, пасыпаць вапнай і торфам. Калі ў гэты час гусянё захварэе, то яго зараз-жа адлучаюць ад здаровых.

*Пляхтур.*

# Як прыгатаваць дамовым спосабам тварог.

Добры тварог мае на рынку і добры збыт. На нашы рынкі вырабляюцца шмат тварагу, але, дзякуючы нізкай яго якасьці, за яго плацяць вельмі нізкія цэны. Гэта тлумачыцца няўменьнем прыгатаўляць творагу ў дробных гаспадарках, дзе няма суадказнага абсталяваньня.

Але і пры простым абсталяваньні можна зрабіць добры тварог.

Для прыгатаўленьня тварагу неабходна мець цёплы пакой з тэмпэратурай ня менш 15-16° R., у якім можна было-б квасіць малако.

Калі ёсьць дзеравяныя кадушкі, то квасіць малако можна і ў менш цёплым пакоі, толькі трэба паміж сьценкамі кадушак падліваць час ад часу гарачую ваду і такім спосабам падзержваць патрэбную тэмпэратуру.

Калі квасяць малако ў дзеравянай пасудзіне, то яе трэба дзержаць у чыстаце: мыць з содай або распушчанай вапнай. У нячыстай пасудзіне кіслае малако (сыракваша), ня можа добра вывaрыцца і мае ня добры смак.

Каб хутка сквасіць малако і каб тварог меў патрэбную кісьліню, неабходна заквашваць яго закваскай, а ў наступны раз можна ўжо карыстацца сыраваткай з-пад тварогу, калі яна добрая.

Закваску робяць так: бярэцца ў вядро малако, з якого зьняты жыр на сэпаратары. Вядро з малаком завязваецца і ўстаўляецца ў кадушку з гарачай вадой пры 28° R. Гэту тэмпэратуру трэба паддзержваць на прадягу квашаньня. Праз 12 гадзін закваска гатова, якую ўзбаўтваюць і льлюць да малака пры 28°R тэмпэратуры ў колькасьці прыблізна 5 проц.

Праз 15-18 гадзін сыракваша гатова. Яна мае блізкучую паверхню і калі зачэрпаць, застаецца незаплыўшая ямка. Наагул сыракваша непавінна булбацецца.

Каб мець слаістыя тварог, трэба сыраквашу здымаць роўнымі пластамі ў круглы цэбар, каб не перамешваць. Затым цэбар устаўляюць у гарачую ваду, цяплыня якой непавінна быць больш 45°R. На гэта трэба зьвярнуць увагу, бо пры адварваньні тварог найчасьцей псуюць.

Калі тэмпэратура пры адварваньні—больш патрэбнай, то па краёх кадушкі тварог прыгарае і ўсплывае на паверх у той час, як у сярэдзіне ён зусім халодны. Калі тварог у такім стане будзе гатавацца, то дастаецца $^2/_3$ яго нягодным.

Пры 43 — 45° цяплiні тварог гатуецца праз $1^1/_2$ — 2 гадзіны, не прыгарае з бакоў і аднальковы, як у сярэдзіне, так і па баках.

Выварены тварог выкладаецца на стол, засланы пасьцілкай, або ў кош, засланы марляй і калі большасць сыраваткі сьцячэ, тады накладаюць цяжар для канчатковага прасаваньня.

Лепш тварог адразу выкладаць у кош, бо потым ня трэба будзе перакладаць, а толькі зашыць і адправіць для прадажы на рынак. Тэмпэратура пакою, у якім выкладаюць тварог, павінна быць 8° R. Пры большай — тварог пачынае закісаць. На *сярпянцы* тварог ляжыць 10—12 гадзін, патым зьлёгку прасуецца і складаецца ў прызначаныя для адпраўкі кадушкі, стараючыся не паламаць.

Каб рабіць запас тварогу, то для гэтага лепш яго выкладаць на рэшата і, як сыраватка сьцячэ, класці тварог у кадушкі, стараючыся не ламаць пластоў; потым устаўляюць у кадушку кружок і крепка спрасаваць.

Прэс — няроўнаплечны падважнік, стрыжань якога цісне на кружок. Як цяжар, вешаюць пудовую ці паўпудовую гіру, або проста скрынку з каменьнямі.

У час прасаваньня ў кадушках на паверхні твярагу выціскаецца шмат сыраваткі, якую зьліваюць, дадаюць у кадушку тварагу і ізноў прасуюць.

Пры такой прасоўцы пласты тварагу ня так крамсаюцца, за што ён асабліва цэніцца. Поўную кадушку завязваюць і так адпраўляюць на рынак.

*Лутц.*

# Як зрабіць добры сыр.

Каб зрабіц добры сыр, бяруць 10 квартаў зьбіранага малака, ўліваюць сюды кварту маслянкі і ставяць гэта ў хаце пакуль не ськівсьне.

Як толькі падойдзе ў гару сываратка, пераліваюць усё малако у клінок і вешаюць яго на 2 дні, пакуль добра не сцячэ. Пасля выкідваюць з клінка ўсю гэту мешўніну ў міску, — соляць, дадаюць кміну, добра вымешваюць ізноў закладваюць у клінок, націскаючы яго камянем, або другім цяжарам. *Л. П.*

# Як залажыць школку і гадаваць прышчэпы.

Хто з нас нялюбіць і няхоча мець каля сваей хаты прыгожэнькі садок, які апрача хараства, даваў-бы гаспадару і карысць. Весялей выглядае тая хатка, каля якой пасаджана хаця некалькі дрэўцаў, а пад ваконцамі красуюцца краскі.

Тым часам садоў па нашых вёсках вельмі мала, а тыя, якія і ёсьць, то запушчаны, дрэўцы старыя, дзікія, так што аб карысьці ад іх ня можа быць і гутаркі. А ўсё гэта павінна быць інакш, бо садок патрабуе для сябе вельмі мала месца, ды яшчэ такога, якое можа быць скарыстана адначасна і для другіх мэтаў, як напрыклад пад агарод. Шкада, бо прылажыўшы трохі працы і розуму, можна прыдбаць для гаспадаркі нямала дабра.

Перш, калі мы хочам мець карысць ад свайга саду, то вельмі важна мець сваю школку (разсаднік), бо купляючы дрэўцы, мы часта купляем ня тое, за што нам прадаюць, ды і па якасці дрэўцы могуць быць добрымі толькі са школак добра пастаўленых. Апрача гэтага, дрэўцы дорага і каштуюць, так што ўсё гэта павінна нас змусіць завадзіць свае школкі.

Таму ў гэтым нарысе я пастараюся даць паважаным чытачам „Сахі“ некалькі радаў як залажыць у сябе дома школку і гадаваць прышчэпы, з якіх можна было-б спадзявацца добрых і суадказных нашым умовам гатункаў дрэў.

Каб завясьці школку, перш трэба выгадаваць дзічкі, значыць дзікія яблынкі і ігрушкі, на каторых будзем прышчэпляць. Для гэтага зьбіраем увосень зерняты дзічак, сеем, пакрываючы на зіму гальлём ялоўцовым, або ляпей, „страфікуём“ іх перш. А робіцца гэта так: бярэцца дзеравяная скрыначка з дзіркамі ў дне, кладзецца на дно чарапкі, вугальле і сыплецца жоўты пясок. На пясок — рад зярнят, пасьля ізноў пясок і г. д., пакуль не запоўнім скрынку даверху. Скрынка ставіцца ў склепе, ці закапваецца ў зямлю дзе-небудзь у

засені на аршын глыбінёй, каб не дайшоў мароз. Вясной як адтане зямля выймаецца скрынка і зярнаты сеюцца на лешкі ў радкі і паліваюць. Як вырастуць дзічкі так, што маюць усе па 4 лісткі, трэба іх „пікаваць“ — значыць даставаць з зямлі, палову карэнчыка адрэзаць і перасадзіць на другую лешку, але ўжо радзей. Летам трэба палоць і паліваць дзічкі. Увосень перасаджываюць іх ужо ў школку.

Месца пад школку трэба выбіраць нямокрае, адкрытае, каб дрэўцы прывыкалі да сьцюжы; зямлю трэба перакапаць на аршын глыбінёй, пры гэтым сподняя зямля выкідваецца наверх, а верхняя падніз. Гэткае капаньне называецца „рэгулёўка“. Калі зямля кепская, то дадаюць пад ніз старого, перапрэўшаго гною. Калі ўжо зямля гатова, садзім дзічкі на 8 вяршкоў адзін ад другога.



На першым рысунку з лева паказана як трэба вырэзаць ушчэпку; на другім — як трэба надрэзаць кару на дзічцы; на трецьцім — як укладаъь ушчэпку пад кару дзічкі і на апошнім паказана як трэба абвязваць прышчэп.

У палове ліпня наступнага году трэба дзічкі „акуляваць“. Для гэтага бярэцца зрэз з дрэва добрага і пажаданага гатунку і вострым ножыкам зрэзваем вочка з кавалачкам дрэва. На дзічку нявысака над зямлёй надрэзваем кару ў знак літэра Т, адхіляем кару, садзім туды вочка і завязваем рагожкай. Праз дзён 15, калі лісток адваліцца, вочка прынялося. У наступную вясну прыняты дзічок зрэзваюць, пакідаючы сучок, да каторага прывязваюць вырасшы з вочка расток.

На другі год дагляд за прышчэпамі будзе наступны: гладка зрэзваюць сучок, замазваюць яго мазьbig. Летам зрэзваем усе галінкі аднізу да паловы. каб гэтым даць магчымасьць хутчэй прышчэпу расці; на трэці год робіцца тое самое, а на чацьверты мажна завадзіць ужо па жаданьню карону, гэта значаць, каб на дрэўцы разьвіваліся столькі галінак, колькі гэта падабаецца гаспадару. Калі прышчэпы у школцы добра растуць, то тыя дрэйцы, якім вясной зроблена карона, можна ўвосень або ў наступную вясну садзіць у сад.

*У. Павалковіч.*

# Травень на пчольніку.

Дачакаўшыся, нарэшце цяплейшых дзён, кожны пчаляр павінен пасьпяшыць зрабіць дакладны агляд сваіх раёў. — Выбраўшы цёплы, ціхі і сонечны дзень, трэба кожны вульлей аглядзець, акуратна, зьвяртаючы увагу на сілу рою, дабрату маткі, выгляд вошчыны і запас мёду.

Толькі моцныя раі дадуць пчаляру карысьць, дзеля гэтага, хто мае ў пчальніку раі слабыя павінен паруліцца іх падмацаваць, каб на пару найбольшага пажытку яны мелі ужо сілу яго выкарыстаць.

Маючы некалькі слабых раёў паміж большым лікам моцных, можна слабыя паправіць або дадаючы ім па пару рамак крытай чарвы, ўзятай з моцных раёў, або маладой пчалы, або пераставіўшы слабыя на месца сільных, каб ўся лётная пчала з другіх паляцела ў першыя.

Але-ж, калі пчаляр мае наагул мала раёў ды ўсе будуць слабыя, то тады можна іх падмацаваць толькі падкармліваньнем на чарву. Гэта можна рабіць толькі тады, калі рой мае суадказны запас мёду, дзеля кармленьня прыбываючай чарвы. Калі ў вульлі ёсьць 2—3 кілё мёду, то гэта добра, а калі толькі няма, то трэба даць аднаразова толькі сыропу (2 шклянкі цукру і шклянку вады) колькі не хапае да вышэй азначанай колькасьці мёду. Запэўніўшы такі запас можна пачаць падкармліваць. Падкармліваем на чарву рэдкім сыропам (1 шклянка цукру і 2 шкл. вады). Даем яго ў працягу тыдня невялікімі порцыямі. Матка, бачучы гэтакае прыбываньне ежы, шмат больш чэрыць, а вышаўшыя маладыя пчолкі пабольшаць сілу рою. — Прыглядаючыся да крытай чарвы можам ацаніць дабрату маткі. Добрая матка чэрыць роўна, ў кожную каморку кладучы адно яечка. Калі пабачым па пару яечак у адной каморцы, то гэта будзе доказам, што матка ўжо старая і трэба яе ў суадказную пару зьмяніць.

Што тычыцца вашчыны, то глядзім ці няма плястраў вельмі старых, або папсаваных, а таксама ці нёма плястраў з трутнёвымі каморкамі. — Старой лічыцца вашчына цёмная, якая ўжо не прасьвечваецца. Такую трэба абавязкава ў свой час забраць даючы на месца яе другую маладзейшую, або вузу прымушаючы пчол, каб сабе яе дабудавалі. Плястры цалком папсаваныя, або цалком трутнёвыя забіраем, а калі сустрэнем папсаваныя або трутнёвыя невялікімі кускамі, то гэтыя кускі вырэзваем і на іх месца ўстаўляем кускі цэлай вашчыны з пчалінымі каморкамі.

Пры гэтых абглядзінах раёў дакладна ачышчаем сьценкі і падлогі вульлёў, а таксама дачыста абскрабляем верхнія бэлькі рамак з налеплянага там кіту.

Зрабіўшы такім чымам ў нашых вульлях поўны парадак і зазначыўшы сабе, што ў каторым з іх трэба будзе яшчэ паправіць, будзем мець на воку, што астаецца нам яшчэ заглядаць толькі ад часу да часу і сьлядзіць, як нашы раі разьвіваюцца.

Калі пабачым, што чарва займае ў вульлі ўсе плястры, не выключаючы і першага ад шкляных дзьверцаў, то тады трэба даць па аднаму плястру пчалінай вашчыны, каб матка мела дзе чэрыць.—Хто цэлых плястраў ня мае, можа іх злажыць паасобных кускоў, шчыльна іх дапасаваўшы ў рамцы і обматаўшы віткай. Пчолы гэтакія кускі пазьлепліваюць паміж сабой моцна, а ніткі папераґрызаюць і выкінуць.

Пасьля, пабачыўшы, што пчолы ізноў занялі ўсе рамкі і пачынаюць пад рамкамі будаваць вашчыну, даём ім рамкі з вузой. Хто вузы яшчэ ня мае можа даць на пару рамак з наклеенымі пачаткамі з натуральнай вашчыны; пчолы пацягнуць работу далей уніз. Калі, у які час па каляндару гэта ўсё рабіць, сказаць нельга, бо гэта залежыць ад розных абставінаў: ў першую чаргу ад ліку мядовых расьлін, а далей ад пагоды і сілы раёў. *З. Верас.*

# Як высушыць сырое памяшчэньне.

(*З уласнай практыкі*).

Каб высушыць сырое памяшчэньне, трэба ў ім падвесіць з нахілам доску, насыпаць на яе парашку хлёрыстай вапны і паставіц пад канец яе зьніжаны якую-небудзь пасудзіну. Вапна выцягвае вогкасьцьці ўдвае больш, чым важыць сама. Ад воўгкасьці вапна робіцца рэдкай і сьцякае па дошцы ў пасудзіну.

Ваду можна выпарыць, а вапну пасля выпарваньня можна ізноў скарыстаць.

Замест хлёрыстай вапны ўжываюць для гэтай жа мэты серкавы квас, які разьліваецца ў адкрытыя шкляныя пасудзіны і растаўляюцца па кутках памяшчэньня. Квас убівае ў сябе больш чатырох частак вады і гэтым самым высушвае паветра памяшчэньня. Праца з серкавым квасам павінна быць вельмі асьцярожнай. *А. К.*

# Доследы з пасевамі бульбы на балоце.

(*З матар'ялаў Забалацкай балотнай гаспадаркі*).

Дасьледы леташняга году з пасевамі аўса на балоце паказалі, што фосфарнае ўгнаеньне не павялічвае ўраджаю.

Данныя аднаго году з аднэй культурай яшчэ нямогуць лічыцца пэўнымі і затым сёлета*) дасьлед пастаўлен

*) Дасьлед роблен у 1926 г.

другі раз і павялічан пасевамі на балоце збожжа, клубняплодаў, лёну, канапіель і бабовых.

Тут я хачу спыніцца на выніках вопытаў з бульбаю.

Пасеян быў сорт „Вольтман" сярэдняй вялічыны, па разліку 80 п. на дзесяціну.

Пры падліку дзялянак асноўнага і паўторнага радоў атрымана ў пераводзе на дзесяціну: Кантроль 440 пуд.; па тамасаўцы — 412 пуд.; па фосф. муцэ — 375 пуд.; па калійнай солі — 1312 пуд; па кал. солі + тамас. — 1237 пуд.; па кал. солі+фосф. муцэ — 937 пуд.

Як відаць, калійная соль у тры разы павышае ўраджай, а фасфарытныя ўгнаеньні, унесеныя асобна ці як дадатак да калійнай солі ўражай зьніжаюць.

Зімою будуць праведзены хэмічныя аналізы торфу; яны высьвятляць яшчэ пытаньне лябораторна, а пакуль што можна толькі сказаць, што наш тарфянік фосфарных угнаеньняў не патрабуе.

Гэта цікавае зьявішча з натуральнага і эканамічнага боку стане тэмай для шэрагу работ на палёх беларускіх гаспадарак; яно прымусіць культурна-тэхнічныя сілы і сялян даследчыкаў пры распрацоўцы балот ня трымацца рацэптаў па ўгнаеньню, а правяраць уплыў кожнага ўгнаеньня на ўласным дасьледзе.

Цяпер зьяўляецца толькі пытаньнем, колькі часу мае ўплыў калійная соль на бульбу. На гэта адказваюць данныя, якія атрыманы, праўда, толькі за 1 год: Без угнаеньнь (другі год культуры) 450 пуд. на дзес.; па нормальному ўгнаеньню, пакладзенаму ў 1925 г. пад авёс — 637 пуд. на дзес.; па падвойнаму нормальнаму ўгнаеньню 1925 г. пад авес — 975 п. на дзес.; па ўгнаеньню (15 п. кал. солі і 18 п. тамасаўкі), пакладзенаму ў 1926 г. — 1162 п. на дз.

Соль як відаць мае уплыў на ўраджай бульбы і на другі год, ала слаба (187 п. прыбаўкі).

Падвойная норма ўгнаеньня першага году зьберагае вялікі запас угнаеньня і на другі год (525 п. прываўкі); але такі спосаб траціць сваё значэньне, бо першагодняя культура (авёс) ад падвойнага ўгнаеньня дае лепшы ўраджай. Угнаеньне, якое пакладзена непасредна пад бульбу, дае прыбаўку ўраджаю ў 712 пуд. (замеот 525 п.).

Данныя і ўчот ураджаю пасеву паказваюць высокую ўраджайнасць бульбы на балоце.

Ва ўсіх выпадках ідзе гутарка аб бульбе сорту „Вольтман", сярэдняй велічыны, высеянай па разліку 80 п. на дз.

Для высьвятленьня пытаньня, якая па велічыні бульба дае найбольшы ўраджай на балоце, была засеяна аднальковая па вазе колькасьць бульбы (3 ф.) на невялічкіх кавалках балота.

Пасля ўчоту ўраджаю аказалася, што: вялікія клубні далі 32,5 фун.; сярэднія—56,25 фун.; дробныя—36,75 фун.; рэзаная ўдоўж—27,80 фун.

Лічба аднаго году паказалі, што найменшы ўраджай дае рэзаная бульба, а найбольшую масу—дробныя бульбіны. Сярэднія бульбіны хоць і даюць меншую масу, але больш, чым буйныя.

Буйныя бульбіны даюць самую вялікую бульбу, але ея бывае мала. Сярэдні і дробны пасадачны матэр'ял дае бульбіны буйныя, сярэднія і дробныя.

Адсюль відаць перавага сяредн. і дробн. (але ні ў якім разе не драбеза ў гарэх) пасадачнага матэр'ялу, якім значна эканоміцца расход на пасеўны матэр'ял. На адным з палёў балотнай гаспадаркі было пасеяна сярэдняй і драбнай бульбы па разьліку на 1 дз. 66 пуд. і ўраджай у сярэднім атрымаўся каля 1000 пудоў.

На падставе даследных данных балотнай гаспадаркі, можна сказаць:

1) *ва ўмовах Балотнай гаспадаркі пад бульбу патрэбна толькі калійная соль (15 пуд. на 1 дзесяціну).*

2) *Калійную соль трэба класьці пад бульбу, якая найбольш ураджайна на сьвежараспрацаваных тарфяніках.*

3) *Для пасадкі трэба браць сярэдні і дробны матар'ял 70—80 пуд.*

**А. Шохар.**

# Дасьлед з попелам.

Я маю даволі высокую сенажаць і ніколі ў сухі год не атрымліваю добрага ўраджаю.

Параіўшыся са знаёмым аграномам, я адмерыў кавалак сенажаці ў 120 кв. саж. і пасеяў $3^1/_2$ п. сабранага попелу, заскарадзіўшы яго бараной з вострымі жалезнымі зубамі. Дзён 20 ня было відаць ніякай розьніцы, але потым угноёная сенажаць пачала аддзяляцца ад няўгноенай. Замест сіўцу ды чарнагалоўкі на ўгноеным кавалку вырасла дзяцеліна і іншыя карысныя травы, а на няўгноенай—трава была кепская. З угноенай дзялянкі я сабраў 14 пуд. сена, а з няўгноенай такой самай вялічыні—6 пуд.

Такім спосабам, угноеная попелам (70 п. на дзес.) сенажаць дае каля 280 пуд. добрага сена, а няўгноеная—ўсяго каля 120 пуд., кепскага.

Браты, сяляне. бярэце гэты прыклад пад увагу.

Селянін *Пляхтур.*

# Парады аграномa.

**Пытаньне.** 1) Як ляпей садзіць гуркі, якую яны любяць зямлю і што трэба рабіць, каб менш было пустацьвету?

2) Ці добра і ў які час вясной баранаваць канюшыну і ці трэба баранаваць насеньне яе?

Надпішчык *Войніч.*

**Адказ.** Гуркі вымагаюць шмат цяпла і лёгкай добра і загадьзя ўгноенай зямлі. Калі дазваляе месца, трэба адводзіць для гуркоў паўднёвыя схілы.

Можна сагрэць зямлю пад гуркі пастушным способам: на тых месцах, дзе думаюць рабіць лехі, капаюць раўкі глыбінёй каля 2 вяршк., кладуць туды роўна конскага, або каровяга гною, утрамбоўваюць яго і паверх робяць лехі. Ад пераправаньня гэтага гною саграваецца зямля.

Каб гуркі давалі менш пустацьвету, рэкамэндуецца ўжываць насеньне 3—4 гадоў, ці сьвежае, але такое, каторае ўсю зіму перахоўвалася ў сухім месцы (каля печы).

Ураджай гуркоў залежыць яшчэ і ад гатунку. Найлепшымі ў нас лічацца: Мурамскія, Вязьнікоўскія і Аксэльскія.

2) Баранаваць канюшынішча вясной вельмі пажадана, бо гэтым мы дапамагаем правільнаму доступу паветра ў зямлю і да карэнчыкаў расьлін, што добра адбіваецца на ўраджаю. Адначасна з баранаваньнем рэкамэндуецца ўгноіць канюшынішча гіпсам ці вапнай.

Баранаваць канюшынішча трэба ў той час, пакуль яшчэ не крануліся ў рост расьліны.

Што-ж тычыцца баранаваньня насеньня канюшыны, дык пасеў яе лепш рабіць па азіміне, як толькі сыйдзе сьнег. Угэты час зямля топкая і не дазваляе ўзьехаць на яе з конямі і баранамі. Калі-ж канюшыну сеюць па ярыне, дык гэта трэба рабіць зараз-жа пасьля закрыцьця насеньня яравога, а тады адзін раз праезжаюць па засеянай канюшыне лёгкімі баранамі.

**Пытаньне.** Ці добра вывозіць гной вясной, калі ў гаспадара ёсьць найбольш часу і ці варта пакідаць яго ў большых кучах?

*Г. Татарын.*

**Адказ.** Вывозяць гной пад азімае тады, калі ў гаспадара ёсьць часу. Вывязшы гной на поле, трэба зараз-жа яго растрасьці і заараць. Калі па якой-небудзь прычыне заараць гной нельга, дык абавязкова ён мусіць ляжаць на ніве растрэсены. Лежачы ў кучах, гной траціць шмат каштоўных частак, аддаючы іх у паветра. Калі-ж ён растрэсены, дык гэтыя часткі прыцягваюцца і задзержваюцца зямлёй.

**Пытаньне.** Ці варта зьбіраць попел, каб выкарыстаць яго як штучнае ўгнаеньне і ці мае ён для расьлін вартасьць.

Падп. *М. Лук'яновіч.*

**Адказ.** Глядзеце артыкулы у гэтым нумары: „Попел як угнаеньне" і „Дасслед з попелам".

---

# Паштовая скрынка.

**Гуртку беларускіх студентаў у Празе** (чэскай) „Саха" вам высылаецца акуратна. Супрацоўніцтва ваша вельмі пажаданна.

**Падпішчіку каршуну.** Курадымку для пчолаў можна дастаць у Зыгмунта Нагродзкага: Вільня, Завальная 11-а. Каштуе 10 зл.

**Падпішчіку Татарыну Г.** Саджанак жывакосьніку „Саха" стараецца набыць, каб мець магчымасць падзяліцца з гэтай новай і цікавай расьлінай са сваімі падпішчыкамі. У сучасны момент рэдакцыі вядомы наступныя гаспадаркі на Беларусі, дзе завялі жывакосьнік: 1) Брозоўскі Вл., Халевічы, р. Ваўкавыск; 2) Глінка Ст. Шчавін, р. Гаварова Белостоцкая; 3) Okręgowe Tow. Podlaska; 4) Гаспадарская школа ў Неневічах (Наваградок); 5) Федаровіч Раман, Шчучын пав. Лідзкі.

**Падпішчакам Скалазубу** і інш. „Саха" высылаецца толькі падпішчыкам у той-жа дзень, як выходзіць з друку. Калі не дастаеце, дык зьвярніцеся да кіраўніка вашае пошты і падавайце жалабу да Дырэкцыі Пошт і Тэлеграфу ў Вільні, што рэдакцыя „Сахі" з свайго боку ўжо зрабіла.

**Прамэтэю.** Матэр'ял ваш для „Сахі" дасталі. Скарыстаем у наступных нумарох.

---

Выдавец. сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ
Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны,—Вільна, Людвісарская 1.

# Прыймаецца падпіска

## на першую сельска-гаспадарскую часопісь

# „САХА"

месячнік з абьёмам каля 240 старонак у год.

**Часопісь** стаціць мэтай у навукова папулярнай форме знаёміць нашае сялянства з навінамі агранамічнай навукі і дасягненьнямі практыкаў-гаспадароў.

**Часопісь** будзе знаёміць с тымі способамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі можна бяз значных грашавых затрат павялічыць свой прыбытак.

**Часопісь** будзе імкнуцца, каб на тэрыторыі Заходняе Беларусі ўтварыць інстытут сялян-дасьледчыкаў і кіраваць іх працай.

**Часопісь** будзе карысна сялянству, чытальням, гурткам, бібліатэкам і г. д.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА ад першаго нумару да канца году 2 зл. 50 гр. **Падпішчыкі будуць адтрымліваць часопісь толькі па перасылцы платы.**

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, вул. Сьв. Анны, д. № 2, кв. 3.